# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№9 (256)

верасень 2023

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету “Бацькаўшчына”

## Названыя найлепшыя навуковыя публікацыі 2022 года

У Гданьску адбылося юбілейнае ўганараванне Прэміяй Міжнароднага Кангрэса даследчыкаў Беларусі.

Старонка 3






# ВЫЙШЛА “ВЫБРАНАЕ” АЙЦА ЛЬВА ГАРОШКІ

Дзейнасць Айца Льва Гарошкі ў замежжы мела без перабольшвання грандыёзныя маштабы. Віртуозны майстра тайм-мэнэджменту, ён здолеў зрабіць столькі, што хапіла б на некалькі жыццяў. Ягоную інтэлектуальную спадчыну расчытвалі і парадкавалі вядомыя даследчыкі эміграцыі Наталля Гардзіенка і Лявон Юрэвіч. Яны сталі ўкладальнікамі доўгачаканага тому “Выбранае” айца Льва Гарошкі. Кніга выходзіць у “Бібліятэцы Бацькаўшчыны” (серыя “Спадчына”) пры спрыянні інтэрнэт-бібліятэкі Kamunikat.

Выданне добра каментаванае (блізу 1500 каментароў) і мае паказнік асобаў. Распавядаем, чаму айца Льва Гарошку можна назваць сапраўдным тытанам беларускай эміграцыі, і якія менавіта тэксты трапілі ў кнігу “Выбранае”.

**Тытан беларускай эміграцыі**

Айцец Леў Гарошка для гісторыі беларускай эміграцыі фігура знакавая. Яго дзейнасць у замежжы мела грандыёзны маштаб. Ацэньваючы цяпер яе плён нават у асобных галінах, часам бывае цяжка паверыць, быццам на ўсё гэта хапіла аднаго чалавечага жыцця – да таго ж не самага працяглага і адзначанага не абы-якімі нягодамі ды выпрабаваннямі.

Феномен да пэўнай ступені тлумачыцца ва ўспамінах яго паплечнікаў. Кожны, з кім Льва Гарошку зводзіў лёс, нязменна адзначаў анамальную працаздольнасць святара, высокую хуткасць засваення ім новых ведаў і рэалізацыі задумаў, а таксама віртуознае валоданне тым, што сёння завецца “мастацтвам тайм-мэнэджмэнту.

Нават перасоўваўся ў прасторы айцец Леў Гарошка, як сведчылі яго сучаснікі, толькі шпаркім крокам, “усе рухі меў энергічныя”, а калі дзе і спыняўся прысесці, то адно каб штосьці занатаваць у блакнот.

Калі ўявіць даробак айца Льва Гарошкі ў выглядзе ландшафту, то вяршынямі, заўважнымі найперш і вартымі асобных манаграфій, будуць

• падшыўкі выдаванага ім у Францыі грамадска-рэлігійнага часопіса “Божым шляхам“, які праіснаваў 17 гадоў (з улікам перапынку),

• 7 гадоў кіравання Беларускай рэдакцыяй Ватыканскага радыё,

• 10 гадоў удзелу ў рэлігійным і грамадскім жыцці Згуртавання беларусаў Вялікай Брытаніі (ЗБВБ).

Працяг на старонцы 2.

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# ВЫЙШЛА "ВЫБРАНАЕ" АЙЦА ЛЬВА ГАРОШКІ

Працяг са старонкі 1.

**Стаяў ля вытокаў "Скарынаўкі"**

Адно з дасягненняў брытанскага перыяду святара – паўстанне знакамітай Беларускай бібліятэкі і музея імя Францішка Скарыны.

Апантанасць Льва Гарошкі кнігамі дазволіла яму "справай" падмацаваць ідэю біскупа Чэслава Сіповіча аб стварэнні бібліятэкі – перавезці з Францыі свой кнігазбор аб'ёмам у 6500 найменняў беларускай тэматыкі.

**Звярнуў увагу Ватыкана на беларусаў як асобную нацыю**

Адраджэнне Уніяцкай царквы айцей Леў Гарошка ўважаў за асноўную справу свайго жыцця, а Царкву разглядаў як сродак здабыцця нацыянальнай, культурнай і духоўнай незалежнасці Беларусі.

Усе перасоўванні і атабарванні Льва Гарошкі па краінах Еўропы, пачынаючы з Нямеччыны, куды ён эміграваў у 1944-м, былі ў першую чаргу звязаны з душпастырскімі справамі. Ім ён аддаваўся з аднолькавай нястомнасцю што ў Нямеччыне, Італіі і Ватыкане, што ў Францыі і Вялікабрытаніі (у апошніх дзвюх – у якасці рэктара Беларускай каталіцкай місіі).

Існуе меркаванне, што Леў Гарошка скарыстаўся ў патрэбны час і ў патрэбным месцы сваім яскравым пастарскім талентам пераконвання, каб паўплываць на Кангрэгацыю па справах усходніх цэркваў.

У выніку энцыкліку Пія XII з нагоды 350-х угодкаў Берасцейскай Уніі выдалі і па-беларуску таксама. Гэта зрабілася важным адпраўным пунктам ва ўспрыняцці Ватыканам беларусаў як асобнай нацыі.

**Дык пра што кніга?**

Некалькі тэкстаў айца Льва Гарошкі, прысвечаных эміграцыі, ёсць і ў прапанаваным да вашай увагі зборніку, але складаюць яны самую малую частку зборніка – гэта літаральна некалькі артыкулаў, якія раней друкаваліся ў часопісе "Божым шляхам".

Гісторыя хрысціянства ў Беларусі агулам і ўніяцтва ў прыватнасці, а таксама рознага кшталту рэлігійная літаратура складаюць асноўную частку велічэзнай бібліяграфіі айца Льва Гарошкі. Таму лагічна, што прыкладна палову зборніка "Выбранае" займаюць:

• Кніга "Святая Еўфрасіня-Прадслава, ігумення манастыра Св. Спаса ў Полацку, патронка Беларусі", якая ў свой час выходзіла асобным выданне;

• Цыклы "Пад знакам "рускае й польскае" веры" і "Беларускія святары і рэлігійныя дзеячы Беларусі" ўпершыню аб'ядналы пад адной вокладкай;

• Тэксты, прысвечаныя дахрысціянскай веры беларусаў, некаторым святым і нават форме беларускага крыжа.

**Самы цікавы раздзел – пра жыццё ў Беларусі**

Айцу Льву Гарошку не ставала часу, каб давесці да ладу ўласныя мемуары з да эміграцыйнага жыцця, якія хаця і публікаваліся з сярэдзіны 60-х, але нерэгулярна, малымі кавалкамі, часам з дваццацігадовымі перапынкамі.

Гісторык Аляксандр Пашкевіч далучыўся да ўкладальнікаў "Выбранага", храналагічна ўпарадкаваў і ўніфікаваў апублікаваныя даследчыкам Лявонам Юрэвічам фрагменты і расчытаныя айцом Аляксандрам Надсанам, Вольгай Калацкай і айцом Аляксандрам Аўдзеюком разрозненыя рукапісы.

"Праз навальніцы й нягоды: успаміны з гадоў 1930–1944" – найцікавейшы раздзел "Выбранага", які апавядае не толькі пра малавядомыя падзеі з жыцця аўтара, але і дае дэтальнае ўяўленне пра міжваеннае і ваеннае жыццё Навагрудчыны і Заходняй Беларусі: грамадска-палітычнае і побытавае, гарадское і вясковае. Ён будзе цікавы як прафесійным гісторыкам, гэтак і ўсім аматарам мемуарыстыкі і беларускага слова.

Айцец Леў Гарошка меў не абы-які літаратурны талент, якім шчыра скарыстаўся, каб апавесці пра польскі шавінізм у дачыненні да беларусаў і ўніятаў, пра рускі камунізм у дачыненні да вернікаў і пра нямецкі нацызм у дачыненні да ўсіх астатніх. Пра ўсе тыя варункі, у якіх праходзіла ягонае жыццё на Радзіме – карагод рэжымаў, пад пільнай, а часам і смяротна небяспечнай увагай якіх яму даводзілася працаваць.

Шмат увагі ва ўспамінах надаецца асаблівасцям працы культурных і адукацыйных установаў – Леў Гарошка ў 1928–1931 гадах навучаўся ў Навагрудскай беларускай гімназіі, у 1937–1939 гадах служыў у Пінскай дыяцэзіі, а падчас нямецкай акупацыі браў удзел у арганізацыі асветніцкага і грамадскага жыцця ў Баранавічах.

Натуральна, што гэтаксама нямала ўвагі ва ўспамінах Леў Гарошка адводзіць і апісанню тагачаснага рэлігійнага жыцця. Некаторыя раздзелы апавядаюць пра атрыманне ім рэлігійнай адукацыі ў Львове і Вене.

І ўсё ж такі істотная частка даробку Льва Гарошкі вядомая хіба толькі ягоным паплечнікам і адмыслоўцам-даследчыкам, якім давялося працаваць з рукапіснай спадчынай архімандрыта. Інтэлектуальная актыўнасць святара, памножаная на працаздольнасць і кола яго зацікаўленняў, якое ўвесь час пашыралася, увасобіліся ў аб'ёмы архіў прац на розных стадыях завершанасці ў самых розных галінах. Ад гісторыі літаратуры і мовазнаўства да этнаграфіі і нават прыродазнаўства.

Гэтак, вядома пра незавершаны слоўнік беларускіх прыказак (блізу 20 тысяч), матэрыялы да грэцка-лацінска-славянска-беларускага слоўніка, падрабязныя бібліяграфіі кніг па беларусістыцы і беларускай перыёдыцы, шматлікія даведнікі, у тым ліку спісы прыходаў і святароў… Усё гэта яшчэ чакае на вывучэнне і публікацыю.

ЗБС "Бацькаўшчына"



А. Леў Гарошка ў працоўным кабінэце. Парыж, 1950-я гг.



А. Аляксандар Надсан, Аўген Вярбіцкі, а. Язэп Гэрмановіч, а. Леў Гарошка, Павал Навара. У садзе Марыян-Гаўзу. Лёндан. 1960-я гг.

навіны

# НАЗВАНЫЯ НАЙЛЕПШЫЯ НАВУКОВЫЯ ПУБЛІКАЦЫІ 2022 ГОДА

У Гданьску адбылося юбілейнае ўганараванне Прэміяй Міжнароднага Кангрэса даследчыкаў Беларусі.

Другі дзень Міжнароднага Кангрэса даследчыкаў Беларусі завяршыўся цырымоніяй уручэння традыцыйных прэмій за навуковыя публікацыі мінулага года. Прэмія Кангрэса фундуецца Сям'ёй Кіпеляў (ЗША) і Беларускім дабрачынным фондам у Лондане.

Суарганізатар Кангрэса, дырэктар Інстытута "Палітычная сфера", палітолаг Андрэй Казакевіч зазначыў:

"Гэта юбілей – першая прэмія была ўручана ў 2013 годзе. Прайшло роўна 10 год. І ёсць нагода падсумаваць тое, што адбывалася ў нас гэтыя гады. Варта звярнуць увагу не толькі на пераможцаў, але і на шорт-лісты, на агульную колькасць працы, якая рабілася экспертамі. За гэтыя гады эксперты апрацавалі тысячу, можа нават крыху больш, тэкстаў – артыкулаў і манаграфій. Калі казаць пра шорт-лісты, то па гістарычных дысцыплінах усяго 53 манаграфіі разглядаліся, па гуманітарных – 47, па сацыяльна-палітычных – 14. Было 49 артыкулаў па гісторыі, 49 – па гуманітарных дысцыплінах і 55 па сацыяльна-палітычных. (…) Што тычыцца мовы, то ў гістарычных дысцыплінах дамінуе беларуская мова – амаль што 90% прац, у гуманітарных дысцыплінах – 70%, у сацыяльна-палітычных дысцыплінах сітуацыя абсалютна іншая: лепшыя артыкулы тут пішуцца па-ангельску – 52%, 34% – па-руску і 13 – на беларускай мове.

Гендэрны баланс таксама вельмі розны па розных дысцыплінах. У намінацыі "гісторыя" ў шорт-лісты трапіла 54 мужчыны і 15 жанчын; у гуманітарных дысцыплінах – 44 мужчыны і 34 жанчыны; у сацыяльна-палітычных невялікая перавага жанчын – 29 аўтарак за 10 год і 25 мужчын".




Тацццяна Астроўская, Алесь Смалянчук на цырымоніі ўручэння Прэміяі Міжнароднага Кангрэса даследчыкаў Беларусі

### ПЕРАМОЖЦЫ

### Гісторыя (манаграфіі)

**Таццяна Астроўская. Культура і супраціў. Інтэлігенцыя, іншадумства і самвыдат у савецкай Беларусі (1968-1988). Беласток: Вясна, 2022.**

Гісторык Алесь Смалянчук пры ўручэнні прэміі зазначыў: "Кніга Таццяны Астроўскай – пра ролю і месца беларускай культуры ў аўтарытарным грамадстве. І кніга, на маю думку, вельмі важная ў наш такі, вельмі мілітарызаваны час. Як змагацца з аўтарытарызмам? Здаецца, толькі шляхам ваяра. А кніга Таццяны Астроўская пра іншае змаганне, пра змаганне культурніцкае. І я пагаджаюся з аўтаркай, што такі шлях можа і больш эфектыўны, хаця можа ён не такі просты, ён доўгі".

Таццяна Астроўская прысвяціла перамогу Алесю Бяляцкаму, "які шмат зрабіў для з'яўлення гэтай працы, спадзяюся, ён хутка патрымае гэтую кнігу ў руках". "Прысвячаю таксама ўсім даследчыкам і даследчыцам Беларусі, якія працягваюць рабіць сваю працу, нягледзячы на ўсе цяжкасці".

### Гісторыя (артыкулы)

У гэтай намінацыі перамог **Андрэй Чарнякевіч** з артыкулам **"Быць канфідэнтам": штодзённае жыццё інфарматара польскай службы бяспекі ў паўночна-ўсходніх ваяводствах ІІ Рэчы Паспалітай (1921–1939 // Homo Historicus. 2022, № 8, с. 178-199.**

Алесь Смалянчук так пракаментаваў працу-пераможцу: "Тэкст незвычайны. Гэта біяграфія даносчыцы, якая рабіла вельмі цікавую трансфармацыю ў сваім жыцці – ад сацыяльнага маргінала да дзяржаўнага служачага і потым назад. Антрапалагічная гісторыя".

### Гуманітарныя навукі (артыкулы)

Тут перамога за артыкулам **Алесі Серады 'Died from Debeeration': The Case of the First Belarusian Political Game // Studies in Eastern European Cinema, 2022, 14(1), 8–24.**

У намінацыі гуманітарныя навукі (манаграфіі) у гэтым годзе конкурс не праводзіўся.

### Сацыяльна-палітычныя навукі (артыкулы)

Прэмію атрымаў палітолаг і філасаф **Пётр Рудкоўскі** за артыкул **Is There a Demand for Autocracy in Belarusian Society? // Journal of Belarusian Studies, 2022, 12(1-2), 35-62.**

Паводле Пётры Рудкоўскага, ягоны артыкул – гэта "спроба прадставіць, што попыт на аўтарытарызм ёсць і якія ён мае карані". "Паслядоўных дэмакратаў нашмат больш, чым прыхільнікаў аўтарытарызму. У мяне сёння радасць на фоне смутку, такое змешанае адчуванне. У Беларусі, нашай краіне, дзеецца шмат зла, яшчэ больш – ва Украіне з-за расійскай агрэсіі. Але я веру, шаноўнае спадарства, што не за гарамі той час, калі я альбо хтосьці з вас будзе пісаць артыкул "Беларусь: досвед паспяховай дэмакратызацыі", у якім будзем аналізаваць не ў катэгорыях прагнозаў і допушчэнняў пераход да дэмакратыі ў Беларусі, а ў катэгорыях мінулага часу – як здзейснены факт", – сказаў лаўрэат.

Вядоўца цырымоніі, паэт Андрэй Хадановіч завяршыў выкананнем (разам з заляй) песняй Яцэка Качмарскага "Mury", альбо "Разбуры турмы муры", якая выдатна пасавала сёлетнему месцу правядзення Кангрэса – Гданьску, гораду "Салідарнасці".




Таццяна Шчытцова, Андрэй Казакевіч, Аляксей Ластоўскі

Рыгор Сапежынскі, budzma.org

**навіны**

# ШТО АДБЫВАЕЦЦА ЗАРАЗ З БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРАЙ?

Якія выклікі стаяць сёння перад беларускай культурай? Як умацоўваць сувязі паміж беларусамі ў розных краінах і пазбегнуць паглыблення культурнага падзелу. Якія задачы стаяць перад дзеячамі беларускай культуры ва ўмовах эміграцыі? Гэтыя і іншыя пытанні абмяркоўвалі падчас Першага Кангрэсу беларускай культуры ў эміграцыі, які праходзіў 16-17 верасня ў Варшаве. Пытанням ролі культуры ў фармаванні нацыянальнай ідэнтычнасці і беларускаму тэатру ў эміграцыі былі прысвечаны асобныя панэлі. Распавядаем пра асноўныя тэзісы, якія там прагучалі.



Ніна Шыдлоўская, сузаснавальніца кампаніі «Будзьма беларусамі», старшыня Рады згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» і рэжысёр Аляксандр Гарцуеў

## Роля культуры ў фармаванні нацыянальнай ідэнтычнасці

У якасці спікераў на панэлі, прысвечанай нацыянальнай ідэнтычнасці, выступілі паэтка і перакладчыца Юля Цімафеева, пісьменнік Альгерд Бахарэвіч, рэжысёр Аляксандр Гарцуеў і сузаснавальніца кампаніі "Будзьма беларусамі", старшыня Рады згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Ніна Шыдлоўская. У большасці выпадкаў выказаныя ідэі перакрыжоўваліся і сцякаліся да некалькіх галоўных тэзісаў, на якіх, па меркаваннях спікераў і гасцей панэлі, павінна будавацца нацыянальная ідэнтычнасць, і адной з ключавых рэчаў тут з'яўляецца культура.

Пісьменнік Альгерд Бахарэвіч падзяліўся меркаваннем наконт "пазітыўнасці" і "негатыўнасці" культуры. Падзяляць яе такім чынам або казаць, што культуры няма, бо яна заціснутая цэнзурай і будуецца толькі ў адным напрамку, на думку пісьменніка, фактычна немагчыма. Ён прыводзіў у прыклад Нямеччыну трыццатых гадоў, калі культура існавала, нягледзячы на таталітарны рэжым. Паводле слоў Бахарэвіча, у такіх умовах культура ператвараецца ў інструмент прапаганды, аднак усё ж існуе і нават развіваецца. У гэтым кантэксце праводзілася паралель з сучаснай культурай у Беларусі, дзе ўсе незалежныя і вольнадумныя ініцыятывы падаўляюцца, а на змену ім паўстае іншая культура, якая не спрыяе адукацыі і развіццю людзей, а служыць дзяржаўнай прапагандзе.

Як адна з ключавых праблем была агучана недастатковасць або адсутнасць беларускай элітарнай культуры. Дэфіцыт якасных прадуктаў культуры, асабліва ў межах сённяшняй Беларусі, калі з паліц прыбіраюцца творы Уладзіміра Караткевіча і Алеся Разанава, а выданне альтэрнатыўнай сучаснай літаратуры наўпрост забараняецца, не дазваляе беларусам развіваць разуменне ўласнай нацыянальнай ідэнтычнасці.

Эміграцыя тут грае важную ролю, бо большасць беларускіх твораў сёння выдаецца за межамі Беларусі такімі незалежнымі выдавецтвамі, як "Янушкевіч" у Варшаве, "Вясна" ў чэшскай Праве або "Скарына" ў Лондане.

У кантэксце выдавецкай дзейнасці падымалася пытанне мастацкіх перакладаў беларускіх твораў на замежныя мовы, каб беларускае слова гучала ў іншых краінах свету і было доказам таго, што нашыя аўтары таксама могуць прапанаваць якасны прадукт і азнаёміць замежных чытачоў з нашым нацыянальным кантэкстам. Немалаважна для беларусаў таксама і выданне замежных твораў у перакладзе на беларускую мову, што таксама ў сённяшніх цяжкіх абставінах існавання роднай мовы будзе спрыяць яе распаўсюду.



Першы Кангрэс беларускай культуры ў эміграцыі

## Культурны падзел Беларусі – сапраўдная небяспека ці беспадстаўная перасцярога

У некаторых спікераў з'явілася меркаванне, або, хутчэй, нават перасцярога, што Беларусь цягам часу можа культурна падзяліцца на дзве часткі: у гэтым кантэксце прыводзіўся прыклад Паўднёвай і Паўночнай Карэі.

Паводле агучаных думак, беларуская культура ў эміграцыі сёння мае магчымасць для развіцця ў вольным кірунку, у той час, як культура ў геаграфічных межах Беларусі яе пазбаўленая, і, магчыма, людзі "па два бакі барыкад" з часам перастануць разумець адно аднаго нават у сэнсе нацыянальнай ідэнтычнасці.

Развіццё беларускай культуры – якой па сутнасці ўжо дзве – адбываецца ў абсалютна розных напрамках і абставінах, што не можа не адбівацца на камунікацыі паміж беларусамі "тут" і "там". Размовы аб "непадзяленні" беларусаў на дзве часткі з паглыбленнем у тэму прыводзяць да своеасаблівага тупіку, які заснаваны на радыкальна супрацьлеглых умовах развіцця беларускай культуры. Неаднаразова гучала меркаванне, што без культуры чалавек існаваць не можа, тым больш – ідэнтыфікаваць сябе як прадстаўніка той ці іншай нацыі.

Але галоўным тэзісам размовы ўсё ж стала думка, што мова – гэта аснова любой нацыянальнай культуры. Размаўляць на беларускай у паўсядзённым жыцці, пісаць, выдаваць і чытаць творы на ёй, ствараць і карыстацца беларускамоўнымі сродкамі інфармацыі з'яўляецца папросту неабходным для пачатку размовы аб нацыянаяль-

най ідэнтычнасці народа.

### “Нацыю можна лічыць сфармаванай тады, калі ў яе ёсць уласны тэатр”

Адна з панэляў Кангрэсу была прысвечана тэме беларускага тэатра па-за межамі краіны і яго перспектывам. У якасці спікераў выступілі актрыса Незалежнай тэатральнай групы “Купалаўцы” Зоя Белахвосцік, беларускія рэжысёры Аляксандр Гарцуеў і Юры Дзівакоў, польскі рэжысёр Павел Пасіні і кіраўнік фонду “Тутака” Павел Станкевіч. Падчас размовы ўздымаліся пытанні ўмоў існавання і творчай дзейнасці артыстаў і культурных арганізацый у эміграцыі, абмяркоўваліся асноўныя праблемы ў арганізацыі творчага працэсу.

Дыскусія аб беларускім тэатры ў эміграцыі шчыльна суадносіцца з тэмай папярэдняй панэлі Кангрэсу аб нацыянальнай ідэнтычнасці. Ключавым стала выказванне рэжысёра Аляксандра Гарцуева, які працытаваў вядомую думку аб тым, што нацыю можна лічыць сфармаванай, калі ў яе ёсць уласны тэатр.

Зоя Белахвосцік у сваю чаргу агучыла думку, што ў творцы павінна быць магчымасць ажыццяўляць свае ідэі тут і цяпер, бо, калі яе няма, потым у яго не будзе жадання выказацца. На пытанне аб тым, дзе знаходзяцца беларускія творцы зараз, артыстка адказала даволі лаканічна і шматзначна – “у паветры”.

Аднак складаныя ўмовы творчай працы ў эміграцыі не з’яўляюцца вялікай перашкодай для артыстаў менавіта дзякуючы моцнай падтрымцы беларускай культуры польскім бокам. У артыстаў ёсць магчымасці атрымліваць гранты і пляцоўкі для сваіх праектаў на разнастайных польскіх сцэнах. Іншай важнай рэччу Зоя Валянцінаўна назвала неабходнасць моцнага менеджарскага сектара – то бок, людзей, які будуць накіроўваць ў адміністрацыйных справах, дапамагаць рэалізаваць творчыя задумы, дамаўляцца аб супрацоўніцтве з тэатральнымі інстытуцыямі. У тым ліку прагучала важнасць міжнародных творчых калабарацый – напрыклад, абедзве супрацы Купалаўцаў з польскім рэжысёрам Паўлам Пасіні артысты лічаць паспяховымі і карыснымі для ўзаемнага




Юля Цімафеева і Ігар Іваноў

разумення нацый і абмену культурным вопытам.

### На якой мове працаваць беларускім творцам за мяжой

Падчас дыскусіі закранулася пытанне мовы, на якой беларускім творцам трэба працаваць. Мэтай Незалежных Купалаўцаў у першую чаргу з’яўляецца захаванне творчага калектыву былых супрацоўнікаў Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы і працяг рэалізацыі праектаў на беларускай мове дзеля яе папулярызацыі (пра гэта можна падрабязна прачытаць у нашым інтэрв’ю з рэжысёрам Аляксандрам Гарцуевым).

Рэжысёр Юры Дзівакоў, у сваю чаргу, распавядаў пра свае праекты на польскай мове і зацікаўленасць ў рэалізацыі тэатральных пастановак на іншых замежных мовах. Ён таксама адзначыў, што кожны творца павінен ісці ўласным шляхам і не азірацца на чужыя прынцыпы працы або густы. Прагучала меркаванне, што адсутнасць камфорту часам спрыяе развіццю тэатральнай сферы і падштурхоўвае да цікавых творчых рашэнняў.

Сярод гасцей панэлі была таксама і рэжысёрка Паліна Дабравольская, якая выказалася наконт моўнага пытання і згадала свае два апошнія праекты, якія рабіліся на польскай і ангельскай мовах (пра адзін з іх можна даведацца больш у рэцэнзіі і інтэрв’ю з Палінай Дабравольскай). На думку Дабравольскай, гэта каштоўны вопыт для любога артыста, нягледзячы на тое, знаходзіцца ён у эміграцыі ці не.

Некаторыя прысутныя пагадзіліся, што асабліва за межамі Беларусі творцам карысна ствараць праекты на мове краіны, у якой яны знаходзіцца, або на любых іншых – гэта спрыяе распаўсюду творчасці беларускіх дзеячаў тэатра ў свеце і дапамагае знаёміць замежнікаў з асаблівасцямі нашай тэатральнай культуры. Аднак для некаторых тэатральных творцаў усё ж асноўнай справай застаецца захаванне і распаўсюд менавіта беларускай мовы, бо, па іх меркаванню, гэта з’яўляецца асновай самаідэнтыфікацыі беларусаў як народа з выразным культурным кодам і спадчынай.

**Наталля Міхаліна Скарынка, budzma.org**

# У ВАРШАВЕ ПРАЙШЛА КАНФЕРЭНЦЫЯ ПА СТВАРЭННІ БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТА ТЭАТРА

7–9 верасня, у Варшаве, адбылася канферэнцыя па стварэнні Беларускага Інстытута тэатра (БІТ). Канферэнцыя была арганізавана працоўнай групай Беларускага тэатральнага кам’юніці, куды ўваходзяць Анжаліка Крашэўская, Валянціна Мароз, Паліна Дабравольская, Каця Раманчык і іншыя ўдзельніцы каманды.

У ёй узялі ўдзел каля 50 прадстаўнікоў і прадстаўніц беларускай тэатральнай супольнасці: акторы, рэжысёры, крытыкі, тэатразнаўцы, менеджары, тэхнічныя спецыялісты, а таксама журналісты. Сярод іх: Купалаўцы Алег Гарбуз, Валя Гарцуева, Зоя Белахвосцік, а таксама рэжысёры Юра Дзівакоў, Уладзімір Ушакоў, прадзюсар Марына Дашук, актор і рэжысёр Андрэй Новік, драматург Андрэй Іваноў, даследчыца тэатра Анастасія Панкратава і многія іншыя. На працягу 3-х дзён у фармаце стратэгічнай сесіі ўдзельнікі і ўдзельніцы канферэнцыі распрацоўвалі рашэнні для накіравання працы будучага Інстытута. Вынікамі працы канферэнцыі стаў падпісаны ўдзельнікамі мемарандум аб стварэнні Беларускага Інстытута тэатра, у якім акрэсленыя асноўныя прынцыпы працы (БІТ): фокус на прафесійную супольнасць як у Беларусі, так і за яе межамі, дэцэнтралізацыя, адсутнасць дыскрымінацыі па гендары, узросце і іншых крытэрыях, развіццё міждысцыплінарнага ўзаемадзеяння.

Каманды працавалі над пытаннямі развіцця: прафесійнай супольнасці і сумежных мастацтваў, даследчай дзейнасці ў галіне тэатра і культуры, нефармальнай і акадэмічнай адукацыі ў сферы тэатра, навукова-даследчай дзейнасці, прасоўвання і адвакацыі парадку дня беларускага тэатра ў Беларусі і за яе межамі.

Цягам працы выявілі наступныя напрамкі БІТ: фасілітацыя і падтрымка прафесійнай супольнасці ўнутры краіны і за яе межамі, стварэнне і каардынацыя праграм кансультацыйнай падтрымкі (юрыдычнай, псіхалагічнай і інш.), распрацоўка методык, адукацыйных праграм для супольнасці, стварэнне міжнародных праграм супрацоўніцтва, развіццё эфектыўнага менеджменту ў беларускім тэатры.

Акрамя гэтага, Інстытут зоймецца фіксацыяй і каталагізацыяй тэатральнага працэсу, архівацыяй тэатральнай спадчыны, а таксама наладжваннем міжнародных сувязяў і партнёрства з замежнымі калегамі. Больш дэтальны набор функцый Беларускага Інстытута тэатра можна прачытаць у мемарандуме.

Для ўдзельнікаў досвед аказаўся цікавым, многія адзначаюць гарызантальнасць мерапрыемства і фокус на ўсіх людзей, якія маюць дачыненне да тэатра.

Так, тэатральны крытык і журналістка Анастасія Панкратава адзначае: “Падабалася змена дзейнасці: акрамя выступленняў спікераў была магчымасць папрацаваць у групе, агучыць сваё бачанне праблемы і варыянты яе вырашэння, абмеркаваць на роўных з усімі ўдзельнікамі канферэнцыі сітуацыю і шляхі выхаду з яе”.

А Максім Шышко, актор і рэжысёр, дзеліцца сваім уражаннем: “Моцна радуе той факт, што стварэнне БІТ – гэта ініцыятыва знізу, ад дзеячаў тэатра. Ідэя лунала ўжо доўгі час у паветры, і цяпер у нас з’явілася магчымасць сфармаваць інстытуцыю, якая сапраўды стане для нас карыснай, будзе слухаць нас і рэагаваць на нашыя запыты”.

Уладзімір Ушакоў і зусім заяўляе: “Беларускі тэатр у Новай Беларусі будзе іншым”.

Важнай часткай прынцыпу працы БІТ застаецца гарызантальнасць і адкрытасць. Зараз пачынаецца праца па запуску кірункаў працы Інстытута, таму зацікаўленыя могуць далучыцца, запоўніўшы анкету (tinyurl.com/ywvde9j7).

**budzma.org**

культура

# Галіна Казіміроўская: Я як Аліса – трапіла ў краіну цудаў

Галіна Казіміроўская распавяла пра музычныя артэфакты лонданскага архіву



Опера "Усяслаў Чарадзей" Міколы Куліковіча, адзіны захаваны зборнік Уладзімера Тэраўскага "Беларускі лірнік", пяць "Пагонь", кружэлкі запісаў 1952 года жаночага хору ў Лювене пад кіраўніцтвам Міколы Равенскага… І гэта – толькі невялічкая частка таго, што Галіна Казіміроўская прывезла ў Варшаву з беларускай бібліятэкі імя Францыска Скарыны ў Лондане.

У легендарных сховішчах (а гэта самая вялікая ў свеце бібліятэка беларускай эміграцыі) стваральніца "Вольнага хору" працавала 9 дзён. Разбірала архівы Міколы Куліковіча і Гая Пікарды, кожны дзень знаходзячы ў архіўных скрынях каштоўныя скарбы. Цяпер у Галіны Казіміроўскай з'явілася нават не мара – місія: стварыць у музеі музычны аддзел.

Галіна Казіміроўская распавяла пра плён свайго лонданскага падарожжа.

"Я як Аліса – патрапіла ў краіну цудаў. І думаю, што нічога больш значнага ў сваім жыцці я не рабіла. Тое, што са мной адбылося… Я бачу ў гэтым гістарычнае значэнне".

"А пасля задавала сабе шмат пытанняў – дзе я была раней? Я ж ведала пра гэты музей яшчэ з кансерваторскіх гадоў. І ніхто нам не перашкаджаў шукаць і вяртаць – ні дыктатура, ні Лукашэнка. Я не хачу думаць, што гэта нашая непавага да спадчыны. Хутчэй няведанне, якое не здымае з нас адказнасці…"

"Самая галоўная каштоўнасць – гэта архіў Міколы Куліковіча. Калі творцы не стала, яго жонка, спявачка, перадала ў музейны архіў 9 вялікіх скрыняў. Самае цікавае, што там не толькі ноты, а яшчэ паштоўкі, лісты, афішы, музычная крытыка, аб'яўкі, этнаграфічныя матэрыялы. А побач – рукапісы яго опер, да якіх ты баішся дакрануцца, бо папера настолькі старая, што ўжо рассыпаецца. Амаль кожны дзень у мяне было амаль перадынфарктны стан – як гэта ўсё захаваць?!"

"Я выхавалася як харавік і ведала, што ў Куліковіча ёсць опера „Лясное возера". Але пра оперу „Усяслаў Чарадзей" ніколі не чула. І ў архіве ёсць гэтыя ноты! І цяпер, калі я згадваю, як мы ў кансерваторыі дырыжыравалі на экзамене операмі Рымскага-Корсакава… А маглі б вучыцца на творах Куліковіча".

"Самыя кранальныя моманты – гэта запісы кружэлак, якія мы аблічбоўвалі. У „Пагоню" Равенскага я проста закахалася! А збор запісаў Забэйды-Суміцкаа? Наш тэнар з неверагодным голасам, ад якога немагчыма адарвацца. Большасць песень на гэтых кружэлках – народныя. Хары ў эміграцыі пачыналі менавіта з народнай песні – каб захаваць гэтую сувязь з радзімай. І ў Варшаву я вярнулася з думкай, што хачу спяваць гэтыя песні. Хаця яны не зусім пасуюць Вольнаму хору. У нас трохі іншы кірунак, другая місія".



"У кожнай краіне ёсць зборнікі патрыятычных песень, якія людзі спявалі на некалькі галасоў. Большасць знойдзеных намі нот тычацца якраз гэтага жанру. Вы б ведалі, з якіх абрыўкаў у 2020 годзе мы рабілі з Вольным хорам нашыя партытуры! Як шукалі па ўсім свеце беларускія патрыятычныя песні. А цяпер яны знайшліся ў лонданскім архіве. Гэта тое, што магло стаць рэпертуарам усіх беларускіх хароў. На гэтых песнях мы маглі выхоўваць сваіх дзяцей".



"Вельмі патрэбная дапамога прафесійных бібліятэкараў, архіварыўсаў, даследчыкаў, гукарэжысёраў. Мы адпрацавалі далёка не ўсё. Там ёсць бабіны з запісамі, да якіх мы нават не дабраліся. Ёсць дыяфільмы, на якіх сфатаграфаваныя цэлыя кніжкі. Трэба ўсё аблічбаваць, стварыць каталог. І такія рэчы не робяцца саматужным, аматарскім спосабам. У нармальнай сітуацыі гэта была б справа дзяржаўнага ўзроўню. Але я зраблю ўсё магчымае, каб пры Музеі-бібліятэцы імя Францыска Скарыны ў Лондане з'явіўся музычны аддзел".

"Зараз я ў кантакце з рознымі дзеячамі мастацтва. Разам мы думаем, як нам збудаваць наступныя крокі. Мне хочацца, каб да гэтых архіваў мелі доступ людзі з усяго свету. Каб з гэтымі дакументамі маглі працаваць даследчыкі, навукоўцы, якія б пісалі артыкулы, кнігі, дысертацыі, рабілі зборы твораў. Але для гэтага нам трэба яшчэ вельмі шмат працаваць".

radiounet.fm

дапамога

# ТРЫ ГАДЫ “ДАПАМОЗЕ”

Тры гады таму ў Вільні пачала дзейнічаць арганізацыя “Дапамога”, якая са жніўня 2020 года ўключылася ў падтрымку палітычных уцекачоў з Беларусі. Пасля ў арганізацыі з’явіўся і ўласны шэлтар – “Замак”, у якім уцекачы могуць не толькі жыць, але і праводзіць розныя мерапрыемствы. Дзень нараджэння “Дапамогі” адзначылі менавіта тут.

Калі ў беларускім асяроддзі ў Вільні кажаш “Замак”, бадай усе разумеюць, пра што ідзе размова. Ужо два гады гэта асноўная “рэзідэнцыя” арганізацыі “Дапамога”, праз якую прайшлі сотні беларусаў. Першапачаткова, калі гэтага дома не было, беларусаў сялілі на кватэрах, дзеліцца ўспамінамі кіраўніца “Дапамогі” Наталля Калегава.

“10 жніўня, пасля выбараў мы даведаліся, што ў Беларусі адбыліся жудасныя рэчы: пачалі забіваць людзей. У мяне не было ніякага палітычнага жыцця, але я радавалася ўсё лета, якой стала Беларусь. Ля амбасады мы зладзілі “Вахту святла”. Нас хацелі разагнаць, але я кажу літоўцам: “Мы такія ж, як вы ў 91-ым годзе. Так што дазвольце нам гэта рабіць”. Нам параілі ўзяць дазвол на гэтыя мітынгі. І мы гэта зрабілі. 28 жніўня мне патэлефанавала мая памочніца са словамі “у нас бежанцы, давайце ім дапаможам, там двое дарослых, трое дзетак, яны сядзяць без святла ў доме ля мяжы”. Я нікога не ведала, толькі ведала троху Вольгу Карач, я ёй патэлефанавала, і пасля мы ўжо з яе бацькам гэтых людзей забіралі з мяжы. Пасялілі іх у нашых апартаментах. Яны хацелі заплаціць, высвятлялі, колькі вінныя за апартаменты, я спытала, колькі ў іх ёсць грошай, бо я не збіралася займацца дабрачыннасцю. Калі я пачула ў адказ “200 еўра”, мне было прасцей ім зрабіць падарунак. Пасля пачалі тэлефанаваць мамы і бабулі тых, хто выйшаў з Акрэсціна, прасілі аб дапамозе. І ты, здаецца, зрабіў ужо першы крок, і адступаць няма куды. Але гэтага б не было без ментараў. Людзі тэлефанавалі, дзякавалі і прапаноўвалі сваю дапамогу. Яны адразу ўключыліся ў працу, дапамагалі людзям, забіралі іх з мяжы. Пасля мы стварылі арганізацыю. Нам ні разу ні адзін фонд не дапамог. Людзям дапамагаў Беларускі дом правоў чалавека, ад пачатку людзі жылі ў нас тыдзень-два, а пасля ім дапамагаў Беларускі дом правоў чалавека.

Як узнік “Замак”? Мой муж прадаў адзін са сваіх праектаў і набыў вялікі дом са словамі “калі-небудзь тут будзе атэль”. Я яму прапанавала адмовіцца ад арэнды кватэр і папрасіла даць мне дзве спальні ў доме і склад. Пасля ён паглядзеў на нас і сказаў: ладна, забірайце яшчэ пакоі і хол. Людзі самі тут усё добраўпарадкавалі, паколькі гэта быў недагледжаны ўчастак, мы нават не ведалі, ці будзе ацяпленне.

Я калісьці падбівала, колькі людзей праз “Замак” прайшло, больш за 600. Быў перыяд, калі шмат беларусаў прыбывала, людзі жылі нават на другім паверсе. То бок мы выкладвалі матрасы. Максімум, колькі ўмяшчае асноўная зона пражывання – гэта 30 чалавек, але яшчэ пяць чалавек змяшчаецца на другім паверсе. Зараз у нас 12 чалавек, гэта малая нагрузка. Праўда, хутка з’явіцца яшчэ адзін беларус, які пераплыў раку. Калі раней людзі беглі ад турмы, то зараз прыбываюць тыя, хто ўжо адседзеў. Бачна, што ім складаней псіхалагічна”.

Зараз Наталлю Калегаву ведае фактычна кожны літоўскі памежнік, бо менавіта яна часта з’яўляецца першым кантактам, з якім звязваюцца тыя, хто нелегальна пераходзіць мяжу, каб трапіць у Літву.

“Я бязмежна ўдзячная літоўскім памежнікам. Яны да нас вельмі добра ставяцца”.

Асноўныя святочныя мерапрыемствы праходзілі на падворку “Замка”: тут і сцэна, з якой гучалі віншаванні, і выстава малюнкаў, і сталы, якія накрылі тыя, каму арганізацыя дапамагала. Людзі сюды прыходзілі цэлымі сем’ямі: з дзеткамі, прысмакамі і словамі падзякі. Нейкі час у “Замку” жыў і Андрэй Шарэнда з сынамі.

“Я прыйшоў з дзецьмі. Мы тут нейкі час жылі, калі прыехалі, некалькі дзён. І мы заўсёды рады завітаць сюды ў госці”.

Юрый збягаў з Беларусі ў той час, калі шэлтара яшчэ не было, але “Дапамога” ўжо існавала. Зараз ён сам кансультуе тых, хто прыязджае, прыплывае ці прыходзіць з Беларусі.

““Замак” карысны з пункту гледжання адаптацыі. Тут людзі, якія не проста пераехалі, а былі пад ціскам у Беларусі, атрымліваюць глыток волі і беларускае асяроддзе. І плюс, тыя, хто тут ужо доўга жыве, можа падказаць бытавыя рэчы: як перамяшчацца па горадзе, дзе знаходзіцца аддзел міграцыі і г.д”.

Сёння “Замак” гэта не толькі дах над галавой для палітычных мігрантаў. Гэта яшчэ і адукацыйная прастора: тут праходзілі курсы па беларускай мове і па гісторыі Беларусі, выступалі з лекцыямі навукоўцы і грамадскія дзеячы. Часта сюды завітваюць і літоўскія палітыкі, каб даведацца пра патрэбы беларусаў і іх настроі. Госцем тут быў дэпутат Альгердас Сісас, у суботу ён прыйшоў з віншаваннямі.

“У мяне да “Дапамогі” толькі самыя лепшыя адносіны. Чым магу дапамагаю. Часам магу ўставіць слова ў парламенце, паразмаўляць з тым ці іншым прадстаўніком улады, калі трэба штосьці вырашаць. Часам атрымліваецца, часам не. Праблемаў шмат. Калі б не агрэсія Расіі, сітуацыя б была іншая. Зараз пайшлі размовы аб больш жорсткіх правілах для беларускіх грамадзян. Я рады, што частка лібералаў не падтрымлівае гэта. Гэта пазіцыя ярка правых і нашага прэзідэнта, пастаянна кажуць, што ёсць пагрозы ад людзей, што ўцякаюць ад рэжыму. Безумоўна, нашы структуры бяспекі працуюць, але я быў заўсёды наступнага меркавання: калі чалавек падазроны, адкладзіце яго тэчку ў бок і разбірайцеся з ім хоць год. А ўсе астатнія, якія перажылі страшныя пакуты, збягалі лесам, па вадзе, дайце ім тут жыць поўным жыццём”.

radiounet.fm





**БНР**

# ВІНШУЕМ ІВОНКУ СУРВІЛЛУ З ПЕРААБРАННЕМ НА ПАСАДУ СТАРШЫНІ РАДЫ БНР

Ад імя Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" віншуем Раду Беларускай Народнай Рэспублікі з паспяховым правядзеннем XXXI сэсіі і пераабраннем прэзідыуму, а шаноўную спадарыню Івонку Сурвіллу асабіста – з пераабраннем на пасаду Старшыні Рады БНР на наступны тэрмін.



Мы вельмі ўсцешаныя такім мудрым выбарам сябраў Рады БНР. На яго карысць сведчыць шматгадовая паспяховая праца Рады за час Вашага старшынства, а новаабраныя сябры Рады зробяць адпаведны ўнёсак, каб і ў наступныя шэсць гадоў аўтарытэт і ўплыў Рады БНР узмацняўся.

Ад усяго сэрца зычым Вам і новаабраным сябрам Рады энергіі, якой хапіла б на рэалізацыю ўсяго задуманага дзеля перамогі беларускай справы і набыцця Беларуссю сапраўднай незалежнасці!

**Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"**

# Заява Рады БНР: ПРА НЕЗАКОННЫ КРЫМІНАЛЬНЫ ПЕРАСЬЛЕД З БОКУ ОРГАНАЎ РЭЖЫМУ А. ЛУКАШЭНКІ

Падаецца ў арыгінале:

"Рада Беларускае Народнае Рэспублікі прымае да ведама інфармацыю пра незаконны крымінальны перасьлед, распачаты карніцкімі органамі нелегітымнага рэжыму на чале з А.Лукашэнкам.

Дадзены факт ніякім чынам не паўплывае на дзейнасьць Рады БНР, яе ўзаемадзеяньне з дэмакратычнымі сіламі Беларусі і яе падтрымку беларускіх добраахвотнікаў, якія ваююць за свабоду і незалежнасьць Украіны.

Больш за тое, заведама незаконныя і абгрунтаваныя экстрэмісцкай ідэалёгіяй рэжыму Лукашэнкі рашэньні і дзеяньні, у тым ліку псэўдаюрыдычнага характару, папаўняюць сьпіс злачынстваў, якія могуць быць падставай для крымінальнага перасьледу датычных да іх асобаў пасьля аднаўленьня законнасьці на тэрыторыі Беларусі. Абвінавачваньні супраць Рады БНР, у тым ліку заявы пра адмаўленьне Радай БНР незалежнасьці беларускай дзяржавы, носяць заведама ілжывы і абсурдны характар, асабліва з улікам таго, што менавіта Рада БНР 25 сакавіка 1918 году абвесьціла пра дзяржаўны сувэрэнітэт Беларусі, ад чаго вядзе свой адлік гісторыя сучаснай сувэрэннай Беларусі.

Таксама Рада БНР нагадвае, што неаднаразова асуджала таталітарныя рэжымы, якія зьдзяйсьнялі злачынствы на тэрыторыі Беларусі, у тым ліку рэжым нямецкіх нацыянал-сацыялістаў.

У прыватнасьці, у сваёй заяве ад 22 чэрвеня 2021 г., прынятай з нагоды васьмідзясятых угодкаў ад пачатку гітлераўскай акупацыі Беларусі, Рада БНР казала пра наступнае:

"Рада БНР салідарызуецца з рашэньнямі Нюрнбэрскага трыбуналу ў асуджэньні доказаных вайсковых злачынстваў, зьдзейсьненых на тэрыторыі Беларусі нямецкімі войскамі і іхнымі хаўрусьнікамі, у тым ліку як беларусамі, так і расейскімі нацыяналістамі і прадстаўнікамі іншых краінаў. Рада БНР асуджае ўсе арганізацыі, прызнаныя злачыннымі рашэньнем Нюрнбэрскага трыбуналу.

Разам з тым, Рада БНР асуджае прапагандысцкае злоўжываньне тэмаю трагедыі Другой Сусьветнай вайны з боку таталітарнага савецкага рэжыму і ягоных сучасных спадкаемцаў.

Камуністычныя ўлады выкарыстоўвалі калясальную траўму беларускага народу ад вайны дзеля маніпуляваньня нашым народам, распальвання варажнечы да іншых краінаў, прыхаваньня памяці пра масавы савецкі палітычны тэрор і масавыя савецкія вайсковыя злачынствы, а таксама дзеля ўмацаваньня сваёй злачыннай антыбеларускай улады.

Рада БНР заяўляе, што былы прэзыдэнт Беларусі Аляксандар Лукашэнка ёсьць адзіным галавой сучаснай эўрапейскай дзяржавы, які зьяўляецца адкрытым ідэйным пасьлядоўнікам як савецкага, так і гітлераўскага рэжымаў.

А. Лукашэнка публічна рабіў антысэміцкія заявы і заявы пра непаўнавартаснасьць беларускай мовы, культуры і дзяржаўнасьці.

А. Лукашэнка публічна выказваў захапленьне палітычнымі практыкамі А. Гітлера і за амаль тры дзесяцігодзьдзя свайго незаконнага кіраваньня выбудаваў палітычную сыстэму Беларусі ў адпаведнасьці з гітлераўскімі прынцыпамі пагарды да дэмакратычных свабодаў і правоў чалавека, пагарды да парлямэнцкай дэмакратыі, а таксама канцэнтрацыі абсалютнае ўлады ў адных руках."

Акрамя гэтага, у сваёй заяве з нагоды сямідзясятых угодкаў ад заканчэньня Другой Сусьветнай вайны ад 8 траўня 2015 году Рада БНР сьцьвярджала наступнае: "Перамога над нацыянал-сацыялістычнай Нямеччынай, важны ўнёсак у якую зрабілі беларусы, выратавала мільёны людзей ад прамой пагрозы фізычнага вынішчэньня. На жаль, у выніку вайны Беларусь не атрымала свабоды, але на амаль 50 гадоў засталася пад савецкай акупацыяй, якая суправаджалася русіфікацыяй і рэпрэсіямі супраць іншадумцаў, у тым ліку супраць прыхільнікаў дзяржаўнага сувэрэнітэту Беларусі. Чалавецтва павінна шанаваць памяць ахвяраў Другой Сусьветнай вайны і зрабіць усё, каб такая вайна ніколі больш не паўтарылася."

Ніжэй прыведзеныя спасылкі на заявы і публікацыі Рады БНР па дадзенай тэме:

Заява Рады БНР з нагоды 70-годзьдзя ад заканчэньня Другое Сусьветнае вайны (8.5.2015): radabnr.org/ww2-70/

Дэкларацыя памяці і салідарнасьці (30.10.2016): radabnr.org/declaration-memory-solidarity-be/

Эўрапейскі дзень памяці ахвяраў нацызма і сталінізма (23.8.2017): radabnr.org/ussr-nazi-1939/

Заява Рады БНР да 80-х угодкаў Пакта Молатава-Рыбэнтропа (23.8.2019): radabnr.org/molotov-ribbentrop-80/

Памяць пра Другую Сусьветную вайну павінна быць падмуркам міру, свабоды і дэмакратыі – Заява Рады БНР (22.6.2021): radabnr.org/ww2-2021/"

**radabnr.org**

## Беларускі каляндар памятных дат на кастрычнік 2023 года

**1 кастрычніка**
- 20 гадоў таму, у 2003-м, памёр Васіль Кендыш, праваслаўны святар, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

**3 кастрычніка**
- 175 гадоў таму, у 1848-м, памёр Міхаіл Баброўскі, славіст.

**6 кастрычніка**
- 115 гадоў таму, у 1908-м, нарадзіўся Алесь Мілюць, паэт. Загінуў у 1944-м.
- 60 гадоў таму, у 1963-м, памёр Віктар Чабатарэвіч, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

**7 кастрычніка**
- 235 гадоў таму, у 1788-м, нарадзіўся Іван Насовіч, мовазнавец, этнограф. Памёр у 1877-м.

**8 кастрычніка**
- 80 гадоў таму, у 1943-м, памёр Андрэй Мрый (Шашалевіч), пісьменнік.

**9 кастрычніка**
- 240 гадоў таму, у 1783-м, памёр Людвік Грынцэвіч, архітэктар.

**12 кастрычніка**
- 135 гадоў таму, у 1888-м, нарадзіўся Язэп Драздовіч, адзін з заснавальнікаў нацыянальна-гістарычнага жывапісу. Памёр у 1954-м.

**14 кастрычніка**
- 120 гадоў таму, у 1903-м, нарадзіўся Лявон Рыдлеўскі, дзеяч эміграцыі ў Францыі. Памёр у 1953-м.

**19 кастрычніка**
- 90 гадоў таму, у 1933-м, нарадзілася Вольга Бурнос (Пашкевіч), дзяячка эміграцыі ў Аўстраліі. Памерла ў 2003-м.
- 35 гадоў таму, у 1988-м, у Мінску ўтвораны «Мартыралог Беларусі» і аргкамітэт БНФ «Адраджэнне».

**20 кастрычніка**
- 255 гадоў таму, у 1768-м, памёр Антон Барташэвіч, філосаф.

**21 кастрычніка**
- 145 гадоў таму, у 1878-м, памёр Восіп Кавалеўскі, адзін з заснавальнікаў манголазнаўства.
- 145 гадоў таму, у 1878-м, нарадзіўся Уладзімір Пічэта, першы рэктар БДУ. Памёр у 1947-м.

**22 кастрычніка**
- 20 гадоў таму, у 2003-м, памёр Міхась Раецкі, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі.

**23 кастрычніка**
- 95 гадоў таму, у 1928-м, нарадзіўся Лаўрэн Клыбік, медык, дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі і Бельгіі. Памёр у 2005-м.

**24 кастрычніка**
- 70 гадоў таму, у 1953-м, памёр Лявон Рыдлеўскі, дзеяч эміграцыі ў Францыі.

**25 кастрычніка**
- 165 гадоў таму, у 1858-м, нарадзіўся Эдуард Пякарскі, лінгвіст, этнограф, географ. Памёр у 1934-м.
- 40 гадоў таму, у 1983-м, памёр Марыян Пецюкевіч, этнограф.

**29 кастрычніка**
- 30 гадоў таму, у 1993-м, памёр Сяргей Карніловіч, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

**30 кастрычніка**
- 140 гадоў таму, у 1883-м, нарадзіўся Янка Быліна (Семашкевіч), каталіцкі святар, пісьменнік. Памёр у 1956-м.

**Беларусы ў свеце**
№ 9 (256), верасень 2023
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў
свету "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Адказныя за нумар –
Н. Шыдлоўская,
А. Макоўская

Наклад 250 асобнікаў

zbsb.info e-mail: zbsb.minsk@gmail.com